**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 31 (747) 31 ліпеня 2014 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by





Выдатныя спевы і танцы гурта “Маленькая фея” з Шаркоўшчыны не пакінулі раўнадушнымі прысутных на Лучайскім фэсце. *Фота Ул. Скрабатуна.*

## Лучайскі фэст на дзень святой Ганны

**На фэст святой Ганны ў Лучай, які адбыўся 26 ліпеня, у спякотны дзень, сабралося шмат народу з розных куткоў Беларусі – аб чым сведчылі і нумарныя знакі рэгіёнаў краіны.**

Фэсты ў Лучаі даўно сталіся знакавымі не толькі для мясцовай каталіцкай супольнасці, але і для культурнага жыцця ўсёй Беларусі, ды й прыязджаюць і прыходзяць на яго не толькі католікі, але і праваслаўныя ды пратэстанты. Калі дзе й жыве Беларусь, дык гэта ў Лучаі – дакладна!

Усё тое сталася дзякуючы мясцоваму ксяндзу Мікалаю Ліпскаму, ураджэнцу Шаркоўшчынскага раёна. Вернікі далучаюцца не толькі да Бога, але і да вялікай беларускай культуры, цудоўнай беларускай мовы.

Трэба аддаць належнае кс. Мікалаю, ён тут трымае не толькі агмень веры, але і стварае з Лучая свой турыстычны брэнд, які можна назваць – “Паланэз над блакітнымі азёрамі”. Так! Тутэйшы касцёл св. Юды Тадэвуша пабудавалі крэўныя сваякі Міхала Агінскага, і ў 2016 г – 250-гадовы юбілей храма.

***Працяг тэмы на стар.5***





**Лучай, фэст. Чыя мыльная бурбалка большая!**– злева на здымку. *Фота Ул. Скрабатуна.*















## Увага – узрост!

**У перыяд часу з 28 ліпеня па 1 жніўня 2014 года на тэрыторыі Глыбоцкага раёна праводзяцца адмысловыя комплексныя мерапрыемствы “Увага – узрост!”.**

Мерапрыемства праводзіцца ў мэтах узмацнення абароны пажылых людзей ад супрацьпраўных замахаў, пашырэння сферы ўзаемадзеяння дзяржаўных органаў і грамадскіх аб’яднанняў па задавальненні запытаў і запатрабаванняў указанай катэгорыі грамадзян.

*А.І. Гігола, начальнік ААПП Глыбоцкага РАУС.*





## МНС інфармуе

**на 29.07.2014 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 649;
Гібель людзей – 68, з іх 3 дзяцей;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 25;
Гібель людзей – 2, з іх дзяцей няма;
Урон – 504.87 млн. руб.

## Пастаўскі раён

# Шчыры і комплексны падыход

■ Чэслаў Якубовіч

**Не сакрэт, што беларуская нацыя старэе, усё болей штогод прыбаўляецца пажылых і адзінокіх людзей, аб якіх няма каму паклапаціцца і ім на дапамогу павінна прыходзіць дзяржава.**

У якім накірунку павінна далей развівацца гэта дзейнасць вырашалася днямі падчас двухдзённай рабочай паездкі ў вобласць міністра працы і сацыяльнай абароны Беларусі Марыяны Шчоткінай. Свой візіт сюды яна пачала з наведвання аб'ектаў Пастаўскага раёна, які з'яўляецца адным з лепшых у краіне па арганізацыі комплекснага сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва. На Пастаўшчыне зараз дзейнічаюць ужо два пансіянаты для адзінокіх састарэлых і працуюць так эфектыўна, што іх вопыт дзейнасці летась вывучалі дэлегацыі сацработнікаў з Швецыі, Латвіі і Літвы. У раёне зараз, дарэчы, жыве амаль 12 тысяч пенсіянераў і амаль 1700 інвалідаў. Тэрытарыяльны цэнтр дапамогі ім мае ўжо 166 работнікаў, стварыў 7 сацаддзяленняў і адзін філіял, штомесяц абслугоўвае амаль 800 старых. Магчымасці для самарэалізацыі і кантактаў дае і аддзяленне адаптацыі і рэабілітацыі для інвалідаў у райцэнтры. У Паставах пачаўся рамонт у будынку, дзе неўзабаве адкрыецца яшчэ адно аддзяленне дзённага знаходжання пажылых грамадзян.

З будынкаў барачнага тыпу ў сучасны светлы дом перабраліся жыць пацыенты Дунілавіцкага псіханеўралагічнага дома-інтэрната, у якім сярэдняя працягласць жыцця перавысіла 81 год. Падобным чынам вядуць сваю дзейнасць сацработнікі і ў Глыбоцкім, Браслаўскім і Полацкім раёнах, дзе таксама пабывалі работнікі галіны з іншых абласцей краіны на чале з міністрам.

## Віцебскі раён

# І рэстаран экстра-класу

■ Станіслаў Раманчук

**Апошнім часам Віцебск выдзяляецца сярод іншых абласных цэнтраў бурным развіццём сваёй інфраструктуры, штогод актыўна прыхарошваецца да свята мастацтваў "Славянскі базар".**

І невыпадкова, што менавіта тут у сярэдзіне лета адкрыўся самы вялікі ў Беларусі двухпавярховы рэстаран сеткі хуткага харчавання "MacDonalds" плошчай 1 тысячы кв. метраў на перасячэнні Маскоўскага праспекта з вуліцай Цярашковай. На яго ўзвядзенне сусветна вядомая кампанія патраціла 35 млрд. рублёў, а самі работы занялі меней двух гадоў. За аснову быў узяты аналагічны праект падобнага рэстарана ў сталічным мікрараёне Уручча, але дапрацаваны для больш камфортнага абслугоўвання гасцей. Віцебскі рэстаран разлічаны на 280 пасадачных месц, па-новым афармлена тут дзіцячая гульнявая пляцоўка. Для абслугоўвання кліентаў на машынах лінія "МакДраўв" мае дадатковае акно і можа абслужыць да 130 аўтамабіляў у гадзіну. Аднак галоўная навінка віцебскага цэнтра харчавання ў тым, што ён мае памяшканне-трансформер для юбілеяў і дзён нараджэння, якое лёгка трансфармуецца ў сучасны бізнес-зал для перамоў дзелавых людзей. У абласным цэнтры кампанія таксама ўкараніла новае сучаснае абсталяванне, сучасную лагістыку паставак і найноўшыя электронныя тэхналогіі. Новы рэстаран прынёс для гараджан 175 новых рабочых месцаў, ад жадаючых тут працаваць адбою не было. Каманду менеджэраў і спецыялістаў склалі мясцовыя маладыя людзі з вопытам працы і добрым веданнем замежных моў. Яны падрыхтаваны для паспяховага вядзення бізнесу, як і іншыя ў асноўным юнакі і дзяўчаты, якія прыйшлі сюды працаваць. Услед за Віцебскам падобная сетка харчавання фаст-фуда будзе створана ў Гродна.

## Гарадоцкі раён

# Правініўся – адказвай

■ Кастусь Александровіч

**Нягледзячы на ўсемагчымыя льготы і прэферэнцыі, сітуацыя ў гаспадарках аграпрамысловага комплексу паранейшым трывожная, тут многія ўпраўленцы свядома прыхарошваюць рэальнае становішча спраў.**

Сведчаннем гэтага стала нядаўна гучная крымінальная справа, распачатая ў адносінах першага намесніка старшыні Гарадоцкага райвыканкама. Праўда, матэрыялы па ёй пракуратура перадала ў Следчы камітэт па леташніх дзеяннях падазронага, калі ён працаваў летась дырэктарам мясцовага льнозавода і адтуль пайшоў на павышэнне. Аператыўнікі выявілі сапраўдны службовы падлог з боку чыноўніка. На працягу мінулага года льнозавод у Гарадку, як і іншыя прадпрыемствы галіны вобласці, перажываў няпростыя дні, рэгулярна ўзнікалі цяжкасці з выплатай заработнай платы работнікам. Фактычна заробкі людзям выплочвалі са значным спазненнем, аднак дырэктар на пару з галоўным бухгалтарам гэтыя факты скрывалі, а ў справаздачах паказвалі поўны ажур. У іншым выпадку за несвоечасовыя выплаты зарплаты іх маглі пакараць штрафамі. Таксама падчас следства ўсплылі і іншыя факты, калі былы дырэктар даваў незаконныя ўказанні падначаленым сказіць справаздачнасць аб уводзенні ў эксплуатацыю жывёлагадоўчай фермы, а гэта ўжо кваліфікуецца, як перавышэнне ўлады і службовых паўнамоцтваў. Іншая справа, што прыпіскі ў АПК сталі масавымі і іншы раз аб гэтым ведаюць і вышэйстаячыя ўлады, але замоўчваюць.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 31.07.14 | | | | Пятніца 01.08.14 | | | | Субота 02.08.14 | | | | Нядзеля 03.08.14 | | | | Пн.04.08. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +22 | +24 | +30 | +26 | +23 | +22 | +25 | +24 | +22 | +23 | +31 | +27 | +22 | +25 | +33 | +28 | +21 | +25 | +33 |
| Ціск | 745 | 745 | 744 | 744 | 744 | 745 | 746 | 747 | 747 | 748 | 749 | 749 | 749 | 750 | 750 | 750 | 750 | 750 | 750 |
| Вільготнасць | 46 | 57 | 35 | 46 | 43 | 74 | 68 | 70 | 75 | 78 | 37 | 53 | 62 | 62 | 19 | 40 | 65 | 63 | 24 |
| Вецер м/сек | 4 Пд-У | 5 Пд | 6 Пд | 4 Пд | 3 Пд | 1 Пд-З | 2 З | 2 Пн-З | 1 Пн | 2 У | 1 З | 1 У | 2 Пд-У | 2 Пд-У | 2 Пд-У | 2 У | 1 У | 2 У | 2 Пн-У |

# Аб самым надзённым

## Другая хваля АЧС можа зноў выклікаць падаражэнне свініны і новыя праблемы для айчыннага АПК

■ Аляксандр Цішкевіч

**Каб засцерагчыся ад бяды, наша краіна амаль у 3 разы абмежавала закупкі замежнай свініны. Тым часам летам пацвердзілі ўжо 2 выпадкі чумы свіней на тэрыторыі Латвііі паблізу беларускай граніцы. І невыпадкова, што аб новых ачагах гэтай хваробы, калі хутка гіне да 98-100 % пагалоўя свіней, загаварылі і на Віцебшчыне. І толькі чыноўнікі АПК і спецыялісты-ветэрынары маўчаць з гэтай нагоды, не даюць афіцыйную інфармацыю.**

Што ні кажыце, а жывём мы ў даволі своеасаблівай краіне, бо афіцыйная трактоўка шэрагу апошніх важных падзей проста дзіўная. Вось у беларускай сталіцы днямі адбыліся рабочыя кансультацыі польска-беларускай міжурадавай камісіі па прыгранічным супрацоўніцтве. Адзін з міліцэйскіх генералаў патлумачыў клопатамі аб нас, чаму Беларусь і надалей не будзе адкрываць малы прыгранічны рух з Польшчай, а таксама і з Літвой. Маўляў, хлынуць за мяжу тысячы брэстчан і гродзенцаў (яны і так ездзяць актыўна за Буг), а патрэбнай інфаструктуры для перасячэння дзяржграніцы няма.

Суседнюю Украіну працягваем называць "брацкай краінай", аднак сваім галоўным саюзнікам лічым Расію, якая вядзе супраць украінцаў непрыкрытую агрэсію, а па-сутнасці вайну новага тыпу. Таму калі ў небе над Данбасам на працягу тыдня быў збіты баевікамі-"апаўчэнцамі" трэці па ліку самалёт, то нашы СМІ напісалі, што пасажырскі "Боінг" (у ім адных дзетак ляцела 80 чалавек) проста "разбіўся" і "ўпаў". Вось толькі падобныя рэчы ўжо тэрарызм міжнароднага ўзроўню, параўнальны з падзеямі 11 верасня, за якія крамлёўскі юрыст Пуцін ведае, што спонсарам і куратарам мярзотнікаў з так званай "Наваросіі" месца ў камеры ў Гаазе.

Таксама сёлета летам з розных куткоў Беларусі сталі прыходзіць трывожныя паведамленні аб тым, што свінні на панадворках насельніцтва і не толькі пачалі гібнуць ад афрыканскай чумы. У прыватнасці, такія факты ўсплылі ў Астравецкім раёне Гродзеншчыны, Бялыніцкім раёне на Магілёўшчыне, у Нарачанскім краі на Міншчыне. Таксама быццам ачагі АЧС выяўляліся сёлета летам і на Гомельшчыне ў Брагінскім і Веткаўскім раёнах. Сітуацыя за мяжой па-ранейшым напружаная: афіцыйна аб распаўсюджанні АЧС паведамілі ў Калужскай, Пскоўскай і Смаленскіх абласцях Расіі.

Каб засцерагчыся ад гэтай бяды, наша краіна амаль у 3 разы абмежавала закупкі замежнай свініны. Тым часам летам пацвердзілі ўжо 2 выпадкі выяўлення чумы свіней на тэрыторыі Латвііі паблізу беларускай граніцы. І невыпадкова, што аб новых ачагах гэтай хваробы, калі хутка гіне да 98-100 % пагалоўя свіней, загаварылі і на Віцебшчыне. І толькі чыноўнікі АПК і спецыялісты-ветэрынары маўчаць з гэтай нагоды, не даюць афіцыйную інфармацыю. У выніку ўзнікаюць розныя чуткі, хваляванні людзей, бо нібыта пацярпелі сур'ёзна ўжо 5 свінакомплексаў заходніх раёнаў Віцебшчыны, сярод якіх Верхнядзвінскі, Шаркаўшчынскі, Пастаўскі і іншыя.

На месцах у добраахвотна-прымусовым парадку людзі зноў пачалі рэзаць свінак і не толькі ў радыусе 5 км ад свінакомплексаў, бо зноў вярнулася афрыканская чума. Нагадаем, што ўпершыню аб гэтай праблеме загаварылі год назад у пачатку лета. У 2013 годзе афіцыйна ў Беларусі зарэгістравалі толькі два ачагі ўспышкі АЧС у Іўеўскім і Віцебскім раёнах. Мяркуючы па ўсім, маштабы гэтай бяды, калі стала значна цяжэй жыць многім вяскоўцам, у нас проста замоўчваліся па дрэннай завядзёнцы. На самой справе ў нашай краіне летась пагалоўе свіней у калгасах зменшылася на 19,5 % да 2,7 млн. галоў.

На палове панадворкаў насельніцтва перасталі трымаць свінак. На Віцебшчыне ў мінулым годзе прыйшлося прырэзаць статак на 7 буйных свінакомплексах і пачаць прафілактычныя мерапрыемствы. Праўда, сёлета напрыканцы зімы каранцін па АЧС для беларусаў быў зняты. Аднак забарона разводзіць свіное пагалоўе ў зоне паблізу свінакомплексаў вясковым жыхарам будзе дзейнічаць мінімум яшчэ 3 гады з моманту выяўлення гэтай небяспечнай інфекцыі. Таксама неабходна паўсюдна прымаць дадатковыя меры па забеспячэнні далейшай біялагічнай абароны буйных жывёлагадоўчых комплексаў, не кажучы ўжо пра меншыя свінафермы і малыя свінарнікі ў вёсках.

З гэтай нагоды пакуль незразумела, якім чынам будзе выканана даручэнне кіраўніка дзяржавы аб аднаўленні пагалоўя свіней у краіне. Другая хваля АЧС можа ўскладніць становішча спраў у айчыннай мяснoй жывёлагадоўлі. Хутчэй усяго, пра чарку са шкваркай, свежае сала і свіны тлушч нам прыйдзецца надоўга забыцца. Каб знізіць цэны, Мінэканомікі Беларусі замест 18 % да 16 % знізіла максімальныя гандлёвыя надбаўкі на свініну.

Аднак цэны на любімы многімі беларусамі прадукт харчавання сёлета і так выраслі амаль у 2 разы і назад яны проста не вернуцца з-за аб'ектыўных прычын. Акрамя свежых сырых мясапрадуктаў цяпер і тушку курынужо бройлера не заўсёды свабодна купіш у магазіне, а па патрабаванні той жа Расіі ўжо амаль паўгода перасталі завозіць да нас і ўкраінскае сала са свінінай. Мы ж знаходзімся ў адным праславутым Мытным саюзе і вымушаны падпарадкоўвацца чужым правілам, якія дыктуюцца пераважна расіяне.

## Дзень за днём

**Санкцыі ЗША супраць Расіі могуць ускосна паўплываць на эканоміку Беларусі з-за змяншэння попыту на беларускія тавары. Стаўку рэфінансавання банкі знізілі да 20,5 % гадавых. Беларусь з Казахстанам адмовіліся караць Малдову санкцыямі разам з Расіяй. Айчынным ВНУ, як і летась, зноў не хапіла для набору студэнтаў-першакурснікаў на бюджэтныя месцы. Другая акруговая дарога вакол Мінска стане платнай, замест асфальтных будуць будаваць дарогі толькі з цэментнабетонным пакрыццём. Моцная бура з навальніцай абсточыла 705 населеных пунктаў краіны.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Новыя санкцыі ЗША і ЕС супраць шэрагу кампаній і банкаў Расіі за яе агрэсію супраць Украіны выклікалі рэзкае падзенне курсу рубля РФ і кошту расійскіх акцый.

**Украіна.** Пасля збіцця пад Данецкам пасажырскага самалёта “Боінг-777” многія авіякампаніі свету выключылі паветраную прастору краіны для сваіх маршрутаў.

**Ізраіль.** Услед за серыяй паветраных удараў армія краіны пачала і наземную ваенную аперацыю для знішчэння аб’ектаў баевікоў руху Хамас, яны зрабілі 1300 абстрэлаў ракет

**Францыя.** Дэпутаты Еўрапарламента на пленарнай сесіі ў Страсбургу зацвердзілі былога прэм’ер-міністра Люксембурга Жан-Клода Юнкера новым старшынёй Еўрапейскай камісіі.

**Сірыя.** На трэці 7-гадовы тэрмін на пасадзе прэзідэнта зноў заступіў 48-гадовы дыктатар Башар Асад, у краіне 3-ці год ідзе крывапралітная грамадзянская вайна, шмат ахвяр.

**Англія.** МЗС краіны выказала занепакоенасць лёсам 33-гадовай украінскай лётчыцы Надзеі Саўчанка, якую баевікі з Данбаса сілай вывезлі ў Варонеж, дзе яе арыштавалі.

**Расія.** У выніку аварыі ў гадзіну пік у маскоўскім метро загінулі 22 пасажыры, яшчэ 50 чалавек атрымалі вельмі цяжкія раненні, у бальніцы даставілі 136 параненых.

**Францыя.** Кіраўнік Аб’яднанай праграмы ААН па ВІЧ СНІДу Мішэль Сідзібе заявіў, што да 2030 года свет можа спыніць распаўсюджванне гэтай страшнай інфекцыі.

**Швейцарыя.** Сусветная арганізацыя аховы здароўя настойліва рэкамендавала ўсім мужчынам-гомасексуалам прайсці курс прафілактыкі супраць ВІЧ-інфекцыі СНІДа.

**Англія.** З-за агрэсіўных дзеянняў Расіі ва Украіне ўрад краіны не пусціў больш паловы расійскай дэлегацыі на буйны міжнародны авіяцыйны салон у Фарнбара-2014.

**Расія.** Былы сакратар Саюза журналістаў РФ, экс-дэпутат Дзярждумы Ігар Якавенка заявіў, што расійскія СМІ ўжо пераўзышлі ўзровень хлуслівай прапаганды Гебельса.

**Украіна.** Контрразведка выявіла ў прыгранічны амаль 400 рускіх “зялёных чалавечкаў”, якія даставілі назад у Расію ўстаноўку “Бук”, збіўшую малазійскі самалёт “Боінг-777”.

**Нарвегія.** Праз 5 гадоў краіна стане першай у свеце, дзе не будзе наяўных грошай, зараз нарвежцы ўжо 95 % разлікаў ажыццяўляюць безнаяўнымі пластыкавымі карткамі.

**Расія.** Вядомага беларускага журналіста Паўла Шарамета абвінавацілі ў “русафобстве” і прымусілі звольніцца з пасады вядучага праграмы “Праўда!” расійскага Грамадскага ТБ.

**Літва.** З-за праблем з сэрцам выдатны 90-гадовы акцёр Данатас Баніёніс перанёс у рэанімацыі клінічную смерць, яго змясцілі потым у аддзяленне догляду ў хоспіс.

# Экзамен па гісторыі Беларусі стане абавязковым для 11-класнікаў



■ Telegraf.by

**Выпускнікі 11-х класаў з 2015 года будуць здаваць абавязковы экзамен па гісторыі Беларусі, а з праграмы выпускных экзаменаў за дзевяць класаў гэта выпрабаванне канфіскавана. Пра гэта распавялі ў мінадукацыі, каментуючы пастанову № 95 ад 7 ліпеня.**

З 2014-2015 навучальнага года навучэнцы па завяршэнні дзевяці класаў навучання будуць здаваць выпускныя экзамены па вучэбных прадметах «Беларуская мова», «Руская мова» і «Матэматыка» ў пісьмовай форме. Па заканчэнні 11 класаў абавязковыя выпускныя экзамены будуць праводзіцца па «матэматыцы», «замежнай мове», «гісторыі Беларусі», а таксама па беларускай або рускай мове па выбары вучня ў пісьмовай форме. Экзамен па выбары навучэнца за курс сярэдняй агульнаадукацыйнай школы адменены, перадае БелТА.

Абавязковы экзамен па гісторыі Беларусі ў спецыяльных агульнаадукацыйных школах, спецыяльных класах, класах інтэграванага навучання і выхавання для навучэнцаў з парушэннем слыху, цяжкімі парушэннямі маўлення, цяжкасцямі ў навучанні будзе праводзіцца па экзаменацыйных білетах, якія распрацоўваюцца з улікам асаблівасцяў іх развіцця. Фармулёўкі пытанняў адаптаваныя да ўзроўню дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця.

Акрамя таго, з 2014-2015 навучальнага года ўключаны ў пералік выпускных экзаменаў па заканчэнні 9 і 11 класаў разам з іншымі вучэбнымі прадметамі, выпускны экзамен па мове нацыянальнай меншасці - польскай ці літоўскай (для тых, хто вывучаў гэты навучальны прадмет).

Для праверкі адпаведнасці вынікаў вучэбнай дзейнасці патрабаванням вучэбных праграм па вучэбных прадметах, змест якіх накіраваны на развіццё здольнасцяў вучняў у галіне асобных відаў мастацтваў, да ўзроўню падрыхтоўкі вучняў па заканчэнні 9 і 11 класаў уводзіцца абавязковы экзамен па выбары навучэнца па адным з такіх прадметаў. Такое выпрабаванне праводзіцца ў практычнай форме. Вынікі вучэбнай дзейнасці па такіх вучэбных прадметах могуць ацэньвацца на выніковым канцэрце, спектаклі, выставе і г.д. Да ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі ставяцца базавыя школы - каледжы мастацтваў, сярэднія школы - каледжы мастацтваў, гімназіі - каледжы мастацтваў, у якіх з 1 па 11 класы вывучаюцца навучальныя прадметы, змест якіх накіраваны на развіццё здольнасцяў вучняў у галіне асобных відаў мастацтваў.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Раптоўны прыезд у РБ віцэ-прэм’ера РФ А. Дварковіча на сустрэчу з А. Лукашэнка, як заявіў палітолаг Р. Якаўлеўскі, засведчыў новыя праблемы ўзаемаадносін.

**Бяроза.** Пры правядзенні трэніровачных палётаў вайскоўцы 927-га авіяцэнтра згубілі свой беспілотны лятальны апарат, яго кошт можа вагацца ад 1 да 4 мільёнаў долараў.

**Жодзіна.** На тэрыторыі рэканструіруемага жылога дома трагічна загінуў супрацоўнік Энерганагляду, зайшоў на будаўнічую пляцоўку і быў забіты рухнуўшай жалезнай канструкцыяй.

**Мінск.** На пасяджэнні польска-беларускай міжурадавай камісіі нам. міністра МУС РБ А. Гур’янаў пацвердзіў, што Беларусь не хоча рэальна развіваць малы прыгранічны рух.

**Магілёў.** Асуджаны на 6 гадоў па сфабрыкаванай справе былы 61-гадовы галоўны ўрач Касцюковіцкай ЦРБ Л. Шылько па стане здароўя да турмы ў Шклове не даехаў.

**Мінск.** А. Лукашэнка прызнаў, што ціск на Беларусь узмацніцца напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў 2015 года, многіх не задавальняе яго выбар на карысць еўразійскай інтэграцыі.

**Гомель.** Улады вобласці вырашылі знесці яшчэ 16 вёсак, у якіх не засталося жыхароў, да канца года будуць ліквідаваны больш 5,5 тысяч старых пустых струхнелых хат.

**Мінск**. Нават лізінгавыя плацяжы за тэхніку, як падкрэсліў першы віцэ-прэм’ер урада РБ У. Сямашка, не плоцяць калгасы краіны, іх даўгі перад дзяржбюджэтам 128 трлн. рублёў.

**Гродна.** За пару гадзін на горад выпала амаль палова месячнай нормы ападкаў, былі падтоплены два цэхі ААТ “Гродна-Азот”, правалілася 10 метраў дарогі на вуліцы.

**Мінск.** Коштам 5-га прэзідэнцкага тэрміну, як папярэдзіў палітолаг А. Класкоўскі, можа стаць крытычная маса саступак Крамлю, што пераўтворыць Беларусь у калонію РФ.

**Шчучын.** Ад 2 да 4-х гадоў пазбаўлення волі пагражае 14-гадовай дзяўчыне з мясцовай праблемнай сям’і за размяшчэнне на сваёй старонцы ў Інтэрнэце двух парнаролікаў.

**Гомель.** Паблізу горада загарэўся завод па перапрацоўцы старых аўтамабільных пакрышак, у абласным цэнтры ўпала дрэва і параніла гуляўшых там хлопца з дзяўчынай.

**Мсціслаўль.** Падчас раскопак на Замкавай гары археолагі знайшлі рэдкую знаходку - берасцяную грамату пачатку XII стагоддзя, якая добра захавалася ў зямлі.

**Івацэвічы.** Міліцыя затрымала 24-гадовага жыхара раёна, які п’яны ў Мінску ноччу згвалтаваў жанчыну, маці трох дзяцей і забыўся ў яе кватэры свой мабільны тэлефон.

**Мінск.** Да канца 2018 года па ўказе прэзідэнта № 357 побач з Партызанскім праспектам павінны пабудаваць нацыянальны футбольны стадыён IV катэгорыі УЕФА на 35 тыс. месц.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Пасля ўборкі азімага рапсу на плошчы 36 тысяч гектараў гаспадаркі вобласці пачалі масавае жніво зерневых і зернебабовых культур, вырас нядрэнны ўраджай.

**Паставы.** На свінакомплексе “Дунілавічы-Агра” з-за падазрэння на ўспышку АЧС пачалі масава рэзаць свіней, трывожная абстаноўка яшчэ на 4-х свінакомплексах вобласці.

**Орша.** Беларуская чыгунка па праграме мадэрнізацыі завяршыла першы этап тэхнічнага пераўзбраення свайго прадпрыемства РЗП № 10 станцыі Орша з заменай станкоў.

**Гарадок.** Маніторынг аблкамітэта Дзяржкантролю выявіў, што ў 8 з 9 аграгарадкоў раёна не выконваецца сацстандарт па асфальтаванні вуліц і шмат парушэнняў правілаў гандлю.

**Глыбокае.** У райцэнтры развіталіся з памерлым раптоўна 58-гадовым сябрам Беларускай асацыяцыі журналістаў, аўтарам штотыднёвіка “Вольнае Глыбокае” Яўгенам Самсонавым

**Паставы.** У райцэнтры здалі жыльцам апошні з трох праблемных у вобласці жылых дамоў, аднак лёс доўгабудаў чакае на Віцебшчыне яшчэ 9 такіх аб’ектаў, 6 не будуюць.

**Віцебск.** З пачатку купальнага сезона на тэрыторыі вобласці ўтапілася ўжо 35 чалавек, у большасці – на дзікіх пляжах, найбольш трагічным быў май, калі вада забрала 18 ахвяр.

**Бешанковічы.** Пад старшынствам Н. Ермаковай у райцэнтры прайшло выязное пасяджэнне праўлення Нацбанка Беларусі, краіна вымушана далей жыць па сродках.

**Шаркаўшчына.** Жыхароў гарпасёлка парадавала, што пачаў рыхтавацца праект капітальнага рамонту з наступнай мадэрнізацыяй дзеючай лазні ў райцэнтры.

**Ноўка.** У мясцовым аграгарадку з нагоды 90-годдзя Віцебскага раёна ўрачыста адкрылі Алею славы 8-мі землякоў “Знакамітыя людзі – ураджэнцы прыгараднага раёна”.

**Глыбокае.** У райцэнтры адкрыўся офіс Беларускага бюро Еўрарэгіёна “Азёрны край”, горад і 3 суседнія раёны наведала міністр працы і сацабароны Беларусі М. Шчоткіна.

**Бягомль.** За з’яўленне на працы ў нецвярозым выглядзе за апошніх 1,5 года мясцовы лясгас звольніў 10 чалавек, ад выпівох пачалі пазбаўляцца пасля цяжкай траўмы летась.

**Віцебск.** Пасол Кітая ў РБ Цуй Цымін з жонкай і дачкой наведалі СШ № 44 абласнога цэнтра, у школе 100 вучняў вывучаюць кітайскую мову стала і на факультатывах.

**Дуброўна.** Каля вёскі Ляды па невядомай прычыне загарэўся і праехаў у агні і дыме без кіроўцы 300 метраў трактар МТЗ-82 калгаса “Прыдняпроўскі” 2008 года выпуска.

**Наваполацк.** ХК “Дынама” (Мінск) вылучыў кандыдатам на пасаду старшыні федэрацыі хакея Беларусі мясцовага экс-легкаатлета, цяпер дэпутата парламента В. Дзевятоўскага.

*Служба інфармацыі “ВГ”.*

# Навошта нам бераг турэцкі!



Возера Акунёва ў спякотны дзень, 27.07.2014 г.



Дзясяткі аўто на беразе возера Акунёва.

■ Ул. Скрабатун

Возера Акунёва – адно з самых улюбёных месцаў адпачынку жыхароў Глыбокага. Добры даезд – побач шаша Полацк-Вільня; вялікае чыстае возера; на дне – пясочак, а не багна; да берага даходзіць лясны масіў Чорны Ручай. Што яшчэ трэба! Клімат за апошнія гадоў 15 змяніўся радыкальна, аб чым сведчаць тэмпературныя рэкорды надзаўніх гадоў, якія былі пабітыя цяпер за сотню гадоў назірання. І навошта нам бераг турэцкі! Нам мілей бераг возера Акунёўскага! Сюды, штогод, у спякотныя дні, прыязджае людзей усё болей і болей, балазе цяпер шмат хто мае сваё прыватнае аўто.

Мне згадваюцца даўнія часы, калі мы былі малымі мальцамі (школьнікамі) і ездзілі на роварах на возера Акунёўскае па новай, толькі што пабудаванай дарозе Полацк-Вільня. Асфальт тады, паверх старасвецкага бруку, толькі пачыналі ў Глыбокім класці. А тут, раптам, такая шаша пралягла, якая вабіць ўдалячынь… Прыязджаем, а тут – такое вялікае возера, якое мальцам падавалася ледзьве не морам. Бераг уздоўж шашы быў чыстым, на беразе не расло дрэваў, не было чароту, а ў вадзе, за метраў дзесяць ад берага,– вялізны валун, які нагадваў скалісты востраў. Камень і цяпер ляжыць, але відарыс на яго закрыла штучная лесапасадка, якая наўпрост ля вады, закрыў і чарот, якога раней не было.

Я наўмысна акцэнтую ўвагу на гэтую штучную лесапасадку. Раней пляж па лініі шашы складаў метраў 300, цяпер жа – каля 40 метраў. З сённяшняга пункту гледжання, гэтая лесапасадка памылковая. Чаму? Нельга збіраць такую колькасць купальшчыкаў у адным невялікім месцы. Экологі Беларусі б'юць трывогу! Антрапагенны фактар губіць шмат вадаёмаў краіны!

Чалавек, які разава выкупаўся ў возеры, прыносіць туды каля 150 мг фосфару, не лічачы фасфатнага забруджвання ад вымытага ў возеры посуду. На здымку, які прапануецца ўвазе чытачоў, у кадр патрапіла блізу 70 чалавек, але тое толькі палова гэтага пляжу, у кадр не патрапіла яшчэ ж столькі, якія сядзяць ці стаяць побач. Ужо – 140-150 чалавек у адным месцы! Аднак, да агульнай колькасці адпачываючых, трэба дадаць яшчэ і разрозныя групы па 5-10 чалавек, якія размясціліся ўздоўж усяго берага, у цяньку пад дрэвамі. Колькі? Няхай 200! А колькі людзей прыехала і з'ехала на працягу дня! 500? І колькі ж фосфару пакінулі ўсе гэтыя людзі за адзін раз купання? А за два, тры? А ці ўсе, што пайшлі ў возера асвяжыцца, перад гэтым схадзілі ў лес (прабачце!) папісаць? (Прыбіральняў я так і не ўбачыў, а мо і не заўважыў.)

Так! Вялікая маса народу, у паўтысячы чалавек, купаецца ў кактэйлі з фосфару і мачы, а мо і разам з рознымі венерычнымі і кішэчнымі мікробамі…. Возера ж не праточнае! Устройства лесапаласы ўздоўж шашы было памылковым, бо пляж звузілі з 300 да 40 метраў. Прырода ж запраграмавана да самаачышчэння, але 300 м слабай канцэнтрацы "кактэйлю" ці 50 м насычанага – што хутчэй самаачысціцца? Аднак гэта толькі мае высновы. Магчыма, спецыялісты з саніпедыміялогіі лічаць інакш і аўтар гэтых радкоў перабольшвае небяспеку, але ж ёсць і меркаванне эколагаў.

Дарэчы, на мапах сярэдзіны XIX ст. возера Акунёва адзначанае, як у 1,5 раза большае па плошчы, чым цяпер. Так, на заходнім беразе (ля в. Валодзькава) маецца забалочаная нізіна. Сучаснымі сродкамі – земснарадамі – можна было б перапампаваць торф і глей на вакольныя калгасныя палі, такім чынам павялічыць (аднавіць) плошчу возера ў 1,5 раза, а і з-за большага аб'ёму вады зрабіць вадаём яшчэ больш здольным да самаачышчэння.

***

Прыехалі мы сям'ёй у мінулую нядзелю адпачыць на Акунёва. Процьма машын, мора народу! Не працiснуцца!

*– Я купацца ў гэтым гусятніку не буду! Едзем на Даравое!–* абураецца зяць.

І мы паехалі… На Даравым, зразумела, народу, таксама нямала. Але ўціснуліся… Вада прыемная, лагодная, але аваднёў – цэлыя раі.

Публіка, з большага – глыбоцкая. Дысцыплінаваная! Бутэлькі пластыкавыя і шкляныя ў возера не кідае, зносіць у кучу. Праўда, а хто гэта смецце будзе ўтылізаваць?



Несанкцыянаваная звалка ля берага возера Даравое.

## У Беларусі вырасла колькасць абортаў, перарываецца 21% цяжарнасцяў

**Белстат апублікаваў дадзеныя па колькасці абортаў, зробленых у краіне летась.**

У 2013 годзе было зафіксавана 31 206 абортаў, упершыню за апошнія гады гэтая лічба вырасла. Для 15% жанчын гэта была першая цяжарнасць, астатнія раней нараджалі.

Белстат прыводзіць звесткі па ўзроставых групах. Так, было зафіксавана 27 абортаў у дзяўчынак, маладзейшых за 15 гадоў.

У цэлым за год была перарваная кожная пятая цяжарнасць (21%).

Іншая методыка падліку называе колькасць абортаў на 100 родаў. Паводле ёй, Беларусь мае індэкс 26,6. Напрыклад, у суседняй Расіі ён амаль удвая больш — 46.

*Ягор Марціновіч*

## Мінгандаль Беларусі ініцыюе забарону на продаж піва ў пластыкавай тары, бо так – на Захадзе

**Мінгандаль Беларусі ініцыюе забарону на продаж піва ў пластыкавай тары. Пра гэта заявіў сёння на прэс-канферэнцыі міністр гандлю Валянцін Чаканаў, перадае карэспандэнт БЕЛТА.**

«Рэалізацыя піва ў пластыкавых бутэльках з часам будзе спыненая, — сказаў Валянцін Чаканаў. —

У многіх развітых краінах якасная алкагольная прадукцыя, у тым ліку піва, прадаецца толькі ў шкляных бутэльках, мы таксама будзем да гэтага імкнуцца».

Паводле яго слоў, забарона на рэалізацыю піва ў тары ёмістасцю, вышэйшай за 2 літры, была ўведзеная ў мэтах паступовага скарачэння колькасці алкаголю, які спажывае насельніцтва. «Адпраўляючыся на прыроду, сучасная моладзь бярэ з сабой менавіта бутэлькі ёмістасцю вышэйшай за 2 л. Выпіваючы такую колькасць піва, яна наносіць вялікую шкоду свайму здароўю», — сказаў Валянцін Чаканаў.

*Паводле БелТА*



# “Па пладах пазнаеце дрэва”

## Фэст святой Ганны ў Лучаі


Біскуп Алег Буткевіч асвячае статую Апостала Фамы

**Парафіяльны адпуст у гонар святой Ганны адбыўся ў Лучаі 26 ліпеня.**

**■ Алена Колтан-Клімза**

Свята, прысвечанае ўспаміну бабулі Езуса, маці Найсвяцейшай Панны Марыі, сабрала вернікаў, каб паўдзельнічаць ва ўрачыстай Святой Імшы разам з ксяндзом біскупам Алегам Буткевічам. Былі запрошаны святары: ксёндз дэкан Раман Мурзіч з Параф'янава, ксёндз пралат Мечыслаў Янчышын дэкан з Глыбокага, святары з Мінска і Славакіі і суседніх парафій. Асаблівае месца сярод запрошаных належала славутаму земляку: сыну Лучайскай зямлі, сакратару Апостальскай нунцыятуры ў Казахстане, капелану Яго Святасці, кс. др Аляксандру Рагіню. Дасягнуўшы такіх вышыняў у маладым узросце, святар з'яўляецца гонарам не толькі Лучая, але і ўсёй краіны.

За гадзіну да святочнай Літургіі вернікі адаравалі Пана Езуса ў Найсвяцейшым Сакраманце перад бакавым алтаром святой Ганны. Мясцовая моладзь чытала разважанні, прысвечаныя апякунцы свята: “Па іх пладах – пазнаеце дрэва”. Святая Ганна прывіла любаму дзіцяці тое, што мела сама – любоў да цноты, чулае сэрца, павагу да Бога, задаткі боязі Божай і дзявочай сарамлівасці, глыбокую павагу да Божага Аб'яўлення, неадольную цягу да самотнасці, агіду да прынадаў гэтага свету і шчырую пакору.

Адарацыйныя спевы чаргаваліся з разважаннямі пра пакліканне хрысціянскай маці. Пра тое, як варта разумець, што дзіця з'яўляецца ўласнасцю Божай. Святая Ганна, вымаліўшы яго ў неба палымянымі малітвамі, начным чуваннем, спавітае міласцінай, афяравала таму ж Богу, ад якога атрымала. Напрыканцы прагучала літанія да святой Ганны.

Святая Імша распачалася з прывітання шаноўнага госця вельмі каларытна, у нацыянальных касцюмах, найпрыгажэйшая маладая пара Лучая хлебам-соллю сустрэла ксяндза біскупа, выказваючы пажаданне, каб пастыр дыяцэзіі стаў яшчэ і братам для лучайскіх вернікаў.

А ксёндз пробашч Мікалай Ліпскі ва ўступным слове пажадаў, каб прысутныя на фэсце адчувалі сябе так утульна, як, быццам, гасцяць у сваіх родных дзядуляў і бабуляў. Дарэчы, святар сам узрастаў у веры менавіта тут, прыязджаючы пагасціць да сваёй бабулі Міхаліны, якая была сапраўднай хрысціянкай. Напэўна, сваімі палымянымі малітвамі выпрасіла ў Бога дар паклікання для свайго ўнука.

Сакрамант канфірмацыі прынялі сёлета 27 вернікаў рознага ўзросту. Звяртаючыся да прысутных падчас гаміліі ксёндз біскуп зазначыў, як з шацункам трэба адносіцца да старэйшых, да бабуляў і дзядуляў. Бо менавіта яны далі нам не толькі жыццё, але і дзеляцца з намі яшчэ і досведам, якога не хапае маладому пакаленню. Старэйшыя баранілі веру, часам аж да праліцця крыві. Ардынарый звярнуў увагу, як неабходна ведаць свой радавод, каб “людзьмі звацца”.

Падчас святой Імшы сталічны каталіцкі гурт “Laudans” праслаўляў Пана Бога спевам у суправаджэнні двухсотгадовага аргана.

Пасля атрымання сакраманту канфірмацыі, моладзь уручыла ксяндзу біскупу кветкі. А сапраўднай неспадзяванкай стаў верш, напісаны спецыяльна да этай падзеі:

*З удзячнасцю за Ваш візіт*
*Святла і ласкі поўным,*
*Хай кветак яркі аксаміт*
*Аздобіць шлях духоўны.*
*Вам Бог з вышыняў дарчуыў*
*Да неба статак весці,*
*І сталі самым маладым*
*Вы біскупам у свеце.*
*Вялікага жніва прастор*
*Хай сілы Бог памножыць,*
*Уладарка Браслаўскіх Азёр*
*У працы дапаможа.*
*А сёння ўвесь прысутны люд*
*Вам шле сваё прызнанне,*
*Праз вашу ласку мелі тут*
*Сакрамэнт Бежмавання.*
*Нашу пашану і любоў*
*Ад усёй душы складаем,*
*Наведаць наш касцёл і зноў*
*Сардэчна запрашаем.*

***З кожным фэстам Лучай прыгажэе – паступова, спакваля ператвараецца ў “жывую Біблію” прыкасцельная тэрыторыя.***

Працэсія з Найсвяцейшым Сакрамантам стала заканчэннем святочнай Літургіі. Пасля вернікі яшчэ раз сабраліся побач за касцёлам, каб прыняць удзел у асвячэнні 2 барэльефаў, усталяваных на ахфяраванні вернікаў, і фігуры апостала Філіпа: як дар-падзяку за аздараўленне на сродкі парафіянкі з Шаркаўшчыны.

З кожным фэстам Лучай прыгажэе – паступова, спакваля ператвараецца ў “жывую Біблію” прыкасцельная тэрыторыя. Мала хто ведае, што большасць будаўнічых работ выканана працавітымі рукамі таты ксяндза Мікалая. Дзякуючы яго руплівай працы, з'явіліся

### *“Умеюць жа ў Лучаі і маліцца, і весяліцца!”*

новыя дарожкі, капліца святога Францішка, адраджаецца агароджа. А напярэдадні фэсту з'явілася цудоўная альтанка і аднаўлена ўваходная брама.

***

Канцэртная праграма распачалася з паланэзу “Развітанне з Радзімай” Агінскага – нашчадка фундатараў касцёла. Выканаў твор акардэаніст з гурта “Рэха” Віктар Паўлючэня. Вядома, Лучай не можа не здзіўляць. На прыступках перад аднаўленай уваходнай брамай адбыўся незабыўны, цудоўны канцэрт.

На свяце выступілі ўжо добра знаёмыя Лучаю выканаўцы: гурт “Рэха” з Мінска, узорны дзіцячы калектыў “Маленькая фея” з Шаркаўшчыны, моладзь з Лучайскай і Варапаеўскай парафій, гурт “Laudans”. Упершыню быў запрошаны гурт “Сейбіт”. Сапраўдным хэдлайнерам (запамінальным момантам) стаў выступ акардэаніста-віртуоза з Мінска Дзмітрыя Корсака. Сваім граннем ён вельмі завёў публіку. Шмат прысутных сталі танчыць пад музыку выдатнага выканаўцы. Яго канцэрт плаўна перайшоў у незабыўнае фаер-шоў, якое зачаравала гледачоў. А вось на самы фінальны акорд (дарэчы, цудоўна прадуманым) стаў кветкісты феерверк пад акампанемент акардэону.

Раз'язджаліся госці пад традыцыйны для Лучая паланэз шчаслівыя, крыху стомленыя, уражаныя прыгажосцю, гасціннасцю, утульнасцю свята. Лучайскія святы набываюць усё большы і большы размах, дзякуючы цудоўным арганізатарскім здольнасцям ксяндза пробашча. Адна з добрых традыцый лучайскіх фэстаў – знаходзіцца ўвесь суботні вечар на свяце аж да кульмінацыі (дарэчы, гэта заўсёды прыемная неспадзяванка), каб потым узгадваць цудоўныя моманты, і з захапленнем расказваць: “Умеюць жа ў Лучаі і маліцца, і весяліцца!”

Наступнае свята плануецца 24 жніўня-падчас валанцёрскага лагеру, да якога парафія запрашае ўсіх жадаючых. Свята будзе прыўрочана для студэнтаў, школьнікаў і настаўнікаў перад пачаткам навучальнага года. **Лучай Вас чакае, дарагія Сябры!!!**



**На здымках:** фрагмент фаер-шоу; выступае моладзь з Варапаеўскай парафіі (унізе).



## Віншаванкі

### Анастасію Адамовіч

**Віншуем з Днём нараджэння!**



Пусть, словно в сказке, сбудутся мечты
И станет жизнь чудесной, легкой, яркой,
Вокруг цветут прекрасные цветы
И радуют желанные подарки!
Пусть новый день удачу принесет
И станет верным спутником везенье,
Пусть впереди лишь только радость ждет!
Любви! Успехов! Счастья! С Днем рожденья!

***Мама, бабуля, дзядуля, Наташа, Саша.***

### Ігара Скрабатуна

**Віншуем з Днём нараджэння!**



Сегодня, в День рожденья твой,
Желаем сердцем и душой:
Здоровья, бодрости и смеха,
Во всех делах твоих успеха!
Пусть будет все, что в жизни нужно,
Чем жизнь бывает хороша:
Любовь, здоровье, верность, дружба
И вечно юная душа.

***Брат Уладзімір.***

### Валянціна Лупача

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Жадаем моцнага здароўя, шчасця, поспехаў у вучобе, правільна адшукаць сваю дарогу ў жыцці.

***Мама, тата, сёстры***

# Дзіцячае свавольства з агнём

**Аналіз прычын пажараў, якія адбыліся па віне дзяцей, паказвае, што яны часта выкліканыя адсутнасцю навыкаў асцярожнага абыходжання з агнём, недастатковым кантролем над іх паводзінамі з боку дарослых, а ў шэрагу выпадкаў няўменнем бацькоў арганізаваць вольны час сваіх дзяцей.**

■ **А. Андрыеўскі,** *інспектар ІДПН Глыбоцкага РАНС*

Часам дарослыя вымушаныя пакінуць дзяцей на нейкі час адных. Аднак, перш чым пайсці з хаты, неабходна даручыць назіранне за дзіцём старэйшым дзецям ці каму-небудзь з дарослых. Асабліва небяспечна пакідаць дзяцей адных у зачыненых кватэрах. У выпадку пажару яны не могуць самастойна выйсці з палаючага памяшкання. Акрамя таго, ратуючыся ад агню і дыму, дзеці звычайна хаваюцца ў шафах, пад ложкамі, сталамі. Адшукаць дзяцей у абстаноўцы пажару справа нялёгкая.

Дзе і як дзеці праводзяць свой вольны час, з кім яны сябруюць, якімі гульнямі захапляюцца? Каб пазбегнуць трагедыі, усе гэтыя пытанні павінны быць прадметам пастаяннай увагі дарослых. Дзіця павінна ведаць свой адрас і нумар бліжэйшага падраздзялення МНС, каб пры неабходнасці выклікаць дапамогу.

Глыбоцкі РАНС у чарговы раз нагадвае бацькам – не пакідайце малалетніх дзяцей адных дома без нагляду, прыбірайце з даступнага месца запалкі, запальніцы ў недаступныя для дзяцей месцы. Абавязкова правядзіце з дзецьмі і гутарку на агульнавядомую тэму «Запалкі дзецям не цацка», раскажыце – да якіх наступстваў прыводзіць пажар, якія ёсць шляхі эвакуацыі ў выпадку ўзнікнення любой пазаштатнай сітуацыі. І, вядома, вывучыце з дзецьмі на памяць нумары тэлефонаў выкліку экстраных службаў: **101 ці 112 - «Дзяжурная служба МНС»; 102 - «Міліцыя»; 103 - «Хуткая медыцынская служба»; 104 - «Аварыйная газавая служба»**, або патэлефанаваць па тэлефоне «101», дзе дыспетчар пераадрасуе ваш званок у патрэбную службу.

Часам да трагедыі могуць прывесці і дзіцячыя гульні з агнём. Каб пагрэцца, хлопцы распальваюць вогнішчы ў закінутых дамах, хлявах, гаражах, на будоўлях, у захламленых месцах, дзе часта захоўваюцца старыя рэчы, лёгкаўзгаральныя і гаручыя вадкасці. Гэта таксама можа скончыцца сумна.

Бываюць выпадкі, калі дарослыя вымушаныя пакідаць дзяцей на час без нагляду, а, застаўшыся дома адны, дзеці пачынаюць самастойна распальваць агонь у печы або прама на дыване, запальваць канфорку на пліце, уключаюць камін, каб сагрэцца. Таму, перш чым пайсці з хаты, неабходна даручыць назіранне за дзіцём дзецям старэйшага ўзросту альбо каму-небудзь з дарослых (напрыклад, суседзяў).



Варта мець на ўвазе, што, калі пажар адбудзецца ў выніку безнагляднасці дзяцей з прынясеннем каму-небудзь шкоды, то бацькі нясуць за гэта адказнасць ва ўстаноўленым законам парадку.

**Дарослым і дзецям!!!**

Усе павінны ведаць правілы пажарнай бяспекі, каб умець паводзіць сябе ў крытычных сітуацыях, умець прыняць правільнае рашэнне, каб пазбегнуць цяжкіх наступстваў, не разгубіцца ў небяспечнай абстаноўцы, ужываючы свае навыкі, веды і ўменні.

**Бацькі!**

1. Не пакідайце дзяцей адных з уключанымі электрапрыборамі.
2. Калі паляцца ацяпляльныя печы, ня зачыняйце дзяцей дома адных на замок.
3. Не давайце дзецям запалкі. Ад маленькай запалкі адбываюцца вялікія пажары.
4. Гульні дзяцей з агнём – прычына пажару.
5. Калі здарыўся пажар, хай кожны памятае: тэлефон дзяжурнай службыМНС-101, 112.

**Дзеці!**

1. Не трэба курыць, бо курэнне пагражае бядой.
2. Запалкі небяспечныя і ніколі іх не бярыце, каб не здарылася бяды.

**Дарослыя і дзеці! Будзьце асцярожныя ў абыходжанні з агнём – гэта гарантыя Вашай бяспекі, бяспекі Вашых родных і блізкіх.**

# Не крадзі!

■ **А.І. Гігола,** *начальнік аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Глыбоцкага РАУС, падпалкоўнік міліцыі*

Настаў напружаны час уборачнай кампаніі. Супрацоўнікамі Глыбоцкага РАУС сумесна з органамі ўлады, ва ўзаемадзеянні з кіраўнікамі прадпрыемстваў аграпрамысловага комплексу на пастаяннай аснове праводзяць работу па забеспячэнні захаванасці таварна-матэрыяльных каштоўнасцяў на аб'ектах АПК, у тым ліку па захаванасці новага ўраджаю. Участковымі інспектарамі міліцыі праводзяцца абследаванні мехдвароў, складоў ГЗМ, збожжатакоў і зерняскладоў. Па выяўленых недахопах накіравана 21 прадстаўленне аб ліквідацыі прычын і ўмоў, якія спрыяюць учыненню правапарушэнняў. 2 кіраўнікі гаспадарак за непрыняцце мер па прадстаўленнях прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці па арт. 24.3 КоАП Рэспублікі Беларусь.

У дадзены перыяд павялічваецца колькасць выяўленых адміністрацыйных права-парушэнняў, у прыватнасці, дробных крадзяжоў, прадметам замахаў з'яўляюцца гаруча-змазачныя матэрыялы, вырашчаная прадукцыя, агрэгаты сельгастэхнікі. Таму не лішнім будзе яшчэ раз нагадаць аб адказнасці за ўчыненне гэтага віду злачынстваў і правапарушэнняў.

### Крымінальная адказнасць

**Артыкул 205 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь. Крадзеж.**

*1. Таемнае выкраданне маёмасці (крадзеж)*

– караецца грамадскімі працамі, або штрафам, або папраўчымі работамі на тэрмін да двух гадоў, або арыштам на тэрмін да шасці месяцаў, ці абмежаваннем волі на тэрмін да трох гадоў, або пазбаўленнем волі на той жа тэрмін.

*2. Крадзеж, учынены паў-торна, або групай асоб, альбо з пранікненнем у жыллё,*

– караецца папраўчымі работамі на тэрмін да двух гадоў, або арыштам на тэрмін ад трох да шасці месяцаў, ці абмежаваннем волі на тэрмін да чатырох гадоў, або пазбаўленнем волі на той жа тэрмін.

*3. Крадзеж, учынены ў буйным памеры,*

– караецца пазбаўленнем волі на тэрмін ад двух да сямі гадоў з канфіскацыяй маёмасці або без канфіскацыі.

*4. Крадзеж, учынены арганізаванай групай альбо ў асабліва буйным памеры,*

– караецца пазбаўленнем волі на тэрмін ад трох да дванаццаці гадоў з канфіскацыяй маёмасці.

### Адміністрацыйная адказнасць

**Артыкул 10.5 Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях. Дробны крадзеж**

*1. Дробны крадзеж маёмасці шляхам крадзяжу, махлярства, злоўжыванні службовымі паўнамоцтвамі, прысваення або растраты, а таксама замах на такі крадзеж,*

– цягнуць накладанне штрафу ў памеры ад дзесяці да трыццаці базавых велічынь або адміністрацыйны арышт.

*2. Тыя ж дзеянні, учыненыя паўторна на працягу аднаго года пасля накладання адміністрацыйнага спагнання за такія ж парушэнні,*

– цягнуць накладанне штрафу ў памеры ад трыццаці да пяцідзесяці базавых велічынь або адміністрацыйны арышт.

Пад дробным крадзяжом маюцца на ўвазе крадзеж маёмасці юрыдычнай асобы ў суме, якая не перавышае дзесяцікратнага памеру базавай велічыні, устаноўленага на дзень учынення дзеяння, за выключэннем крадзяжу ордэна, медалі, нагруднага знака да ганаровага звання Рэспублікі Беларусь або СССР, а таксама крадзеж маёмасці фізічнай асобы ў суме, якая не перавышае двухразовага памеру базавай велічыні, устаноўленага на дзень учынення дзеяння, за выключэннем крадзяжу ордэна, медалі, нагруднага знака да ганаровага звання Рэспублікі Беларусь або СССР альбо крадзяжу, учыненага групай асоб, або шляхам крадзяжу, учыненага з адзення або ручной паклажы, якія знаходзіліся пры ім, альбо з пранікненнем у жыллё.

# Узровень пажарнай бяспекі праверанных суб'ектаў

У чэрвені месяцы 2014 года інспекцыяй нагляду і прафілактыкі Глыбоцкага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях завершана планавыя праверкі 3-х суб'ектаў: УАЗ Глыбоцкая цэнтральная раённая бальніца «(галоўны ўрач Петухоў С.Ю.), ААТ «Глыбоцкі камбікормавы завод»(дырэктар Шчарбакоў В.М.), філіяла «Дарожна-эксплуатацыйнае ўпраўленне №35» РУП «Віцебск аўтадар» (начальнік Цісепкі П.Л.). Таксама завершана праверка ДКУСП «Глыбоцкая перасоўная механізаваная калона-48» (дырэктар Кожух С.П.) на выкананне ліцэнзійных патрабаванняў і ўмоў на права ажыццяўлення дзейнасці па забеспячэнні пажарнай бяспекі ў частцы выканання работ з ужываннем вогнеахоўнага складу БАН.

**Па выніках праверкі УАЗ «Глыбоцкая цэнтральная раённая бальніца»** выяўлена, што кіраўніцтвам суб'екта не вылучаецца неабходнае фінансаванне на прывядзенне аб'ектаў у належны супрацьпажарны стан.

Эфектыўнасць арганізацыйна-тэхнічных мерапрыемстваў па забеспячэнні пажарнай бяспекі ўстановы аховы здароўя "Глыбоцкая цэнтральная раённая бальніца" на недастатковым узроўні. На працягу шэрагу гадоў не выконваюцца патрабаванні нормаў пажарнай бяспекі Рэспублікі Беларусь НПБ 15-2007 у частцы абсталявання будынкаў сродкамі пажарнай аўтаматыкі. Будынкі і збудаванні не забяспечаны спраўнай аховай ад маланак, згаральныя канструкцыі паддашкавых памяшканняў не апрацаваны вогнеахоўным складам. Першаснымі сродкамі пажаратушэння будынкі ўкамплектаваны не ў поўным аб'ёме.

Дадзеныя парушэнні зніжаюць узровень забеспячэння пажарнай бяспекі.

**Па выніках праверкі ААТ «Глыбоцкі камбікормавы завод»** выяўлена, што:

■ на прадпрыемстве не праводзіцца абслугоўванне аўтаматычнай пажарнай сігналізацыі спецыялізаванай арганізацыяй;

■ на будынку камбікормавага цэха дэмантаваная частка агароджы вонкавай металічнай эвакуацыйнай лесвіцы.

Навучанне работнікаў мерам пажарнай бяспекі арганізавана ў поўным аб'ёме. Улік асоб, якія прайшлі супрацьпажарны інструктаж і навучаных па ПТМ, вядзецца. Заведзены журналы для рэгістрацыі праведзеных інструктажоў.

Распрацаваны і зацверджаны праграмы правядзення супрацьпажарных інструктажоў, заняткаў па ПТМ. Пазапланавыя, паўторныя і мэтавыя інструктажы праводзяцца своечасова.

Маюцца папаверхавыя планы эвакуацыі людзей і матэрыяльных каштоўнасцяў з будынкаў пры пажары, маюцца знакі і паказальнікі на шляхах эвакуацыі.

**Па выніках праверкі філіяла «ДЭУ №35» РУП «Віцебскаўтадар»** выяўлена, што:

■ на прадпрыемстве адсутнічае пашпарт пажарнай бяспекі аб'екта;

■ пад маршам лесвічнай клеткі адміністрацыйнай часткі будынка на першым паверсе абсталявана дапаможнае памяшканне;

■ на шляхах эвакуацыі ў адміністрацыйнай частцы будынка прыменена згаральная аддзелка.

Па выніках праверак у дачыненні да кіраўнікоў і службовых асоб дадзеных суб'ектаў пачаты адміністрацыйны працэс.

*Інспекцыя ІДПН Глыбоцкага РАНС*

